ніўся і хваліўся, што ўжо аканчальна „адкінуў“ і забіў на сьмерць. Вось, дзеля чаго забойства Маттэотті літэральна ўстрасло ня толькі ўсю Італію, але і ўвесь сьвет... І мы зьяўляемся сьведкамі нязвычайна цікавага і павучаючага зьявішча, як над гэтай аднэй магілай заваліваецца ўвесь пышны „цэзарскі“ гмах фашыстаўскай дыктатуры, што на крыві, гвалце і фальшы быў пабудаваны „геніем“ Мусоліні...

Маттэотті выдаў незадоўга прад забойствам ёмкую кніжку, пад назовам „Год фашыстаўскага ўрадаваньня“. У кніжцы зьмешчана далёка ня поўная статыстыка ўсіх гвалтаў, учыненых фашыстамі за першы год іх панаваньня. І вось пад вярхоўнай уладай „Князя Мусоліні“ Маттэотті здалеў зарэгістраваць 1271 выпадкаў забойств, калечаньняў, падпалаў, бязьвесных увозаў, разгромаў дамоў, апазыцыйных установаў і г. д. Але пішуць, што гэтая лічба—менш нават палова таго, што адбылося ў запраўднасьці, бо ў адным толькі мястэчку каля Болёніі ўчынена каля сотні гвалтаў, якія не папалі ў статыстыку Маттэотті...

Трэба падкрэсьліць, што фашысты забіваюць і гвалтуюць ня толькі „левых“,—сацыялістаў, рэспублікаццаў, дэмакратаў і г. п., але сярод згвалтаваных шмат духоўных, сябраў хрысьціянскіх зьвязкоў і г. д., аб чым маўчалі нашыя „хьенцы“ і „тугуттоўцы“...

Але апроч гэтага, Маттэотті падгатаўляў новае выданьне — аб нячуваных надужыцьцях, аб рабаваньню скарбу і нацыянальнае маемасьці, якое практыкавалі зусім спакойна, пазбавіўшыся кантролю запраўднага народнага прадстаўніцтва, „прыраджоныя гаспадары“ краю — італьянскія хьена-пястоўцы... У партфэлі Маттэотті былі вельмі важныя матэрыялы і дакумэнты, якія вельмі непакоілі паноў палажэньня.

І вось „палітычная сэкцыя“ партыі дала загад „выканаўчай“, і сацыялістычны пасол быў схоплены і забіты.

### 5. Хто забіў Маттэотті?

Забойства Маттэотті зьявілася дзеля таго такім фатальна-выбуховым для ўсяго фашыстаўскага гмаху, што гэтае забойства, як высьветляецца цяпер, арганізавана было з ведама і даручэньня ўсей вышэйшай іерархіі фашыстаўскай улады, не выключаючы і самога Мусоліні...

І калі цяпер Мусоліні так рашуча адхрышчываецца ад забойцаў і іх найвышэйшых загадчыкаў, дык сьцьверджаныя факты б‘юць па яго словах лепш за ўсё.

Вось гэтыя неўмалімыя факты.

Забойства Маттэотті было дзелам фармальнае змовы, галавой якое быў п. Росьсі, шэф аддзелу прэсы Рады Міністраў... Яго бліжэйшым памоцнікам быў п. Марынэльлі, галоўны „дырэктар“ фашыстаўскай партыі, сябра Вялікай Рады Фашыстаў. Зналі аб змове і памагалі ёй віцэ-міністар унутр. спраў Фінці і камэндант фашыстаўскай міліцыі дэ-Боно.—Усе гэтыя асобы штодзенна складалі Мусоліні рапарты, атрымлівалі ад яго асабістыя загады і былі, наагул, ня толькі яго бліжэйшымі супрацоўнікамі ў барацьбе і перамозе, але і асабістымі прыяцелямі...

Толькі нашыя польскія „вельбіцелі“ фашызму могуць гаварыць, што забойства—„справа безадказных рук“...

Запраўднай „душой“ усей справы быў нейкі Філіпэльлі, рэдактар фашыстаўскага афіцыёзу „Corriere Italiano“, (абмылкова газэты раней падалі назоў урадовай газэты „Corriere d‘Italia“). Газэта Філіпэльлі прапагавала фашызм, дастаючы вялізарныя субсыдыі ад італьянскіх прамыслоўцаў, фінансістаў і ўраду. Найвыразьней кажа аб сувязі Філіпэльлі з урадам тое, што, злоўлены на граніцы, Філіпэльлі меў фальшывы пашпарт, выданы яму галоўным камэндантам фашыстаўскай міліцыі, генаралам дэ-Боно... А гэты самы Філіпэльлі якраз і наймаў безпясярэдняга выпаўніцеля забойства, прафэсыянальнага фашыстаўскага бандыта Думіні, які меў у партыі афіцыяльнае званьне „генаральнага інспэктара выканаўчай сэкцыі“ галоўнага ўраду партыі, якая з даручэньня „палітычнай сэкцыі“ забівала тых, хто быў прызнаны шкодным...

Думіні, Філіпэльлі, Росьсі, Марынэльлі пасаджаны па загаду Мусоліні ў вастрог; Фінці, дэ-Боно і амаль ня ўвесь склад мін. унутр. спраў атрымаў адстаўку. Мусоліні рашуча адрокся ад сваіх бышых таварышоў і пастанавіў „ачысьціць партыю і атмасфэру ў краі рашучымі мерамі“...

Але вельмі цікавыя весткі раскіданы ў газэтах, якога пагляду толькі што перад забойствам быў сам Мусоліні аб тых, каго ён цяпер „топіць“.

### 6. Маральны і палітычны вінавайца забойства — Мусоліні.

Як ведама, Мусоліні дайшоў да ўлады пры дапамозе такіх людзей, на сумленьні якіх, як раскрывае цяпер у вастрозе Думіні, ляжаў не адзін дзесятак праступленьняў... І вось у сьнежні 1922 г. Мусоліні абвесьціў амністыю ўсім тым праступнікам, якія змылі свае старыя грахі тым, што ў радох партыі фашыстаў нарабілі новых праступленьняў...

Пад гэтым лёзунгам бязкарнасьці фашыстаў за праступленьні і ўзгадоўваў Мусоліні сваю армію ў працягу двух гадоў.

Што датычыць спэцыяльна асобаў, скапраматаваных у забойстве Маттэотті, дык сьцьверджана, што Мусоліні ведаў аб іх грахох, аб скаргах на іх дзеяльнасьць, але заўсёды ня толькі не караў, але публічна бараніў і амаль не выхваляў іх... Калі адзін з выйшаўшых з партыі, нейкі Форні, публічна пералічыўшы якраз усе вышэйназваныя прозьвішчы забойцаў, заявіў што „Мусоліні знаходзіцца ў кепскай кампаніі“, дык Мусоліні таксама публічна заявіў, што гэтыя асобы—яго „найбліжэйшыя супрацоўнікі, да якіх ён мае найглыбейшае даверые і ўдзячнасьць“... Рэдактару Філіпэльлі грошы адпускаліся па асабістаму загаду Мусоліні... Фактычны выпаўніцель забойств, Думіні, быў асабістым ад‘ютантам Мусоліні ў часе „паходу на Рым“... Думіні заявіў у вастрозе, што ўжо ўчыніў 12 забойстваў з даручэньня фашыстаўскіх уладаў — „у інтарэсах народных“... Ён быў так пэўны, што і за гэтае новае душагубства яму нічога ня будзе, што ня толькі ня ўцёк з Рыму, але спакойна аставіў сабе „на памятку“ акрываўленыя нагавіцы забітага і на першым жа дапросе выдаў ўсіх сваіх загадчыкаў... Цяпер ён, зразумеўшы, што яго аддадуць у ахвяру сусьветнай апініі, пагражае выдаць усіх, хто замешаны ў разбойную арганізацыю фашызму, раскрыць тайну ўсіх 12, а можа і больш забойстваў, выпаўненых ім, ці ведамых яму...

### 7. Лёс фашызму і яго правадыра.

Вынікі ўсей гэтай справы—палітычныя і іншыя—трудна ўжо цяпер прадбачыць. Мусоліні, які меў у парляманце большасьць каля 400 галасоў, мае іх цяпер толькі 13...

Па ўсім краі йдзе ўжо адкрытае абурэньне проці фашыстаў, на чале якога хацеў бы стануць... сам Мусоліні!

З другога боку, пасьля страшэннага ўдару хутка апраівіліся і самі фашысты. Страціўшы парлямант, яны, пасьля раду адбытых мясцовых зьездаў, рыхтуюць вялікі ўсефашыстаўскі зьезд у Міляне, ці ў Рыме. Барацьба, відаць, пачынаецца нанова... Але адбывацца яна будзе ўжо ў варунках і абставінах іншых:

Мусоліні, хоч-ня-хоч, але, пад націскам радыкальных пераменаў у ўкладзе эўрапэйскіх палітычных адносінаў, павінен будзе здрадзіць сваіх фашыстаў... Гэта будзе першым яго крокам.

Але на гэтым не затрымаецца эвалюцыя вялікага краю з моцнымі дэмакратычнымі традыцыямі. Той, хто на плячох крымінальных праступнікаў, як прынцыповы гвалтаўнік дэмакратызму, крывавым шляхам дарваўся да ўлады — той ня можа будаваць разам з чыстымі дзеячамі новай Эўропы, новага жыцьця ў сваім краі... Калі-б Мусоліні і абярнуўся „дэмакратам“, ратуючы сябе і „сваю Італію“ прамысловых і фінансавых „хьен“, дык—хто-ж яму паверыць?!..

Пасьля краху фашызму павінен прыйсьці і „заход“ першай яго „зьвязды“—самога Мусоліні...

**М.**

## Узрост безрабоцьця у Польшчы

„Санацыя скарбу“ пана Грабскага, які ня прыняў ніякіх мераў для аслабленьня эканамічнага крызысу ў краі, дае ўсё больш пагражаючыя вынікі. Безрабоцьце ў Польшчы ўсё расьце.

Паводле данных Статыстычнага Камітэту, за тры месяцы—люты сакавік і красавік—агульная лічба безработных як быццам павялічылася ня вельмі многа, бо толькі каля 1000 работнікаў.

Але справа ў тым, што 300.000 работнікаў, якія пакуль што маюць працу на фабрыках, працуюць ня цэлы тыдзень, але толькі па колькі дзён. Вось вельмі красамоўная табліца гэтых дзён працы:

| | |
|---|---|
| Па 6 дзён на тыдзень працавалі | у лютым 50% работнікаў у красавіку толькі 22,5%. |
| Па 5 дзён у тыдні працавалі | у лютым 8% работнікаў у красавіку аж 32%. |
| Па 4 дні на тыдзень працавалі | у лютым 10% работнікаў у красавіку аж 27%. |

І гэтак далей. З гэтага відаць, што ў лютым палова ўсіх работнікаў мела поўны тыднёвы заработак, а ў канцы красавіка — ўжо толькі менш чверці. Траціна работнікаў зарабляла праз пяць дзён у тыдні.

Вось гэтую табліцу трэба мець на ўвазе, калі ўрад п. Грабскага кажа, што бэзрабоцьце ў Польшчы не пашыраецца.

За травень і чэрвень няма яшчэ даных, але „Роботн!к“ піша, што палажэньне шмат пагоршылася. Напрыклад, у лодзкім вокрузе, паводле апошніх вестак, яшчэ 17 фабрык зачыніліся зусім, а ў 33 звольнены або значна зьменшаны штат работнікаў.

## Палітычныя падзеі.

### Сэнсацыйная вестка.

„Громадский Голос“ піша:

Вэнгерскія газэты падаюць, што чэскі міністар загран. спраў (ён-жа і прэм‘ер, п. Бэнэш) вядзе перагаворы з Радавым Саюзам аб уступцы С.С.Р.Р. Прыкарпацкай Украіны. Д-р Бэнэш гарачкова падгатаўляе да гэтага рашэньня ўрады парыжскі, лёндонскі і рымскі.

Вестка гэтая страшэнна напалохала польскія ўрадовыя кругі, бо — ў выпадку чэскарасейскага калідору — прыйшлося-б папрашчацца з „крэсамі“...

### У справе катаваньня ў Львоўскім вастрозе.

Пасьля інтэрпэляцыі ўкраінскіх паслоў у справе Бэсарабавай і наагул катаваньня ў Львоўскім вастрозе, да якое далучыліся „меншасьці“

## „Wielka tradycja tolerancji polskiej“.

(Гл. № 9 „Сын Беларуса“).

Важным дакумантам польскай нетолеранцыі зьяўляецца устаў з 1733 году, дзе на падставе канстытуцыі 1717 году даецца інаверцам запэўненьне спакою, .... „tak przecież aby w izbie poselskiej, w trybunałach i na komisjach activitatem zjazdów swoich prywatnych seu conventicula, prawami zakazanych, oraz urzędów koronnych, litewskich i grodzkich (salvis modernis possesoribus) nie mieli“.

Такім чынам *усе некаталікі не маглі нават быць урадоўцамі.*

Вядомы польскі гісторык Шуйскі называе гэты пункт пастановы „сфармуляваньнем нетолеранцыі, каторая ад справы Торуньскай сталася апорай нацыянальнага гонару“. Нешта падобнае піша і праф. Конопчыньскі, дабаўляючы, што за гэты устаў Польшча пасьля дорага заплаціць.

І запраўды, заплаціла Польшча вельмі дорага, бо ўціскам праваслаўных і пратэстантаў дала повад тром суседзям, а асабліва Кацярыне II, умяшацца ў польскія справы і падзяліць яе на тры часьці. Праз увесь працяг панаваньня Станіслава Панятоўскага аж да першага разьдзелу мы бачым няўпынную акцыю царыцы і яе хітрага амбасадара Рэпніна з мэтай вярнуць дысыдэнтам правы.

Першым крокам расейскай дыпляматыі пры Кацярыне быў праект, пададзены ў каранацыйным Сойме ў 1764 годзе, у якім гаварылася аб паляпшэньні быту дысыдэнтаў. Праект гэты быў адкінуты з вялікім абурэньнем.

На найбліжэйшы Сойм Рэпнін ізноў выступіў з тым самым праектам, прычым заявіў, што ў прыпадку адмовы ён увядзе ў Польшчу 40.000 расейскага войска. На весьць аб гэтым шляхта яшчэ больш узбурылася і прыгатавалася да моцнага адпору дамаганьням зраўнаньня ў правох дысыдэнтаў з каталікамі. Галава апазыцыі, біскуп Солтык, падахвочываў сэнатараў-духоўных, каб не дапушчалі да ніякіх уступак інаверцам; выдаў навет цыркуляр да ксяндзоў з загадам рабіць набажэнствы па касьцёлах, каб адвярнуць няшчасьце, пагражаючае каталіцтву. Пад уплывам біскупа пачалі ксяндзы шырокую агітацыю проці якіх-колечы ўступак.

У такой атмосфэры сабраўся Сойм у 1766 г. пад маршалкоўствам Чапліца. На адным з паседжаньняў біскуп кракаўскі горача прызываў стаяць цьвёрда і прапанаваў, каб кожнага, хто асьмеліцца цяпер або ў будучыне запрапанаваць якія-небудзь уступкі, уважалі за здрадніка (przeniewiercę) і пазбаўлялі маемасьці. Сэнатары і паслы згадзіліся. Кароль, баючыся дражніць Расею, спыніў галасаваньне. Кацярына II ў катэгарычнай форме зажадала расьвязаньня справы на карысьць дысыдэнтаў, аб чым Рэпнін заявіў, у прысутнасьці караля, Сэнату і паслам. З дамаганьнямі направы палажэньня дысыдэнтаў выступалі і чужаземныя паслы: данскі і ангійскі. Рэпнін сваей пагрозы не спаўняў, і вось вынесена была пастанова, зацьвярджаючая старыя законы аб дысыдэнтах. Аднак, у так званым скрыпце да архіву біскупы згадзіліся на папраўку сьвятыняў, хаваньне нябошчыкаў на магільніках, звальненьне дысыдэнтаў спад касьцельнай каталіцкай юрысдыкцыі і звальненьне некаталіцкага духавенства ад аплат пры займаньні парахвіяў.

Дзякуючы такому няпоўнаму, а вельмі крыўднаму абходу патрэб дысыдэнтаў, творыцца цэлы рад канфэдэрацыяў, як Слуцкая, Торуньская і Радомская. Прылучаюцца да іх і каталікі, маючыя адну супольную мэту—скінуць караля. Канфэдэраты прызываюць на помач суседніх манархаў, а іменна: царыцу Кацярыну II, каралёў: пруската, ангійскага, швэдзкага і данскага.

Расея, як вядома, іграла ў гэтым самую відную роль.

На зьехаўшыся Сойм Канфэдэратаў маршалак Радзівіл загадаў прачытаць праект: выбраць дэлегатаў да Рэпніна, даючы ім усе правы самога Сойму. Дэлегацыя большасьцяй галасоў мела замяніць сабой Сойм.

Такім парадкам Рэпнін хацеў правясьці раўнапраўе дысыдэнтаў, зьмяніць лад Рэчыпаспалітай і зрабіць саюз з Расеяй.

Проціў праекту выступілі біскупы Солтык і Залускі, а так-жа гэтман Ржэвускі. Рэпнін, бачучы небясьпеку для сябе, прыказаў пратэстуючых арыштаваць і вывязьці ў Расею. Соймавая дэлегацыя пад націскам Рэпніна выпрацавала праекты поўнага раўнапраўя некаталікоў з каталікамі з прызнаньнем каталіцтва рэлігіяй пануючай.

На апошняй сэсіі Сойму пастановы дэлегацыі былі падпісаны, пры пратэсьце аднаго Выбіцкага.

і польская лявіца, было зроблена дазнаньне, у выніку якога былі „ўхілены ад урадаваньня“ два „стрэлачнікі“, Лабіяк і Маляўскі, бо было сьцьверджана іх учасьце ў катаваньні.

Тады правыя ўступіліся за „пакрыўджаных“ паліцэйскіх, было зроблена новае „дазнаньне“ і..: сцьверджана „поўная нявіноўнасьць“ катаваўшых, якія ізноў дапушчаны да ўрадаваньня...

### „Koło Małopolskie“.

Польскія паслы і сэнатары з Галіччыны ўтварылі асобнае „паразуменьне“ ці групу, лікам каля 60 парлямэнтарыяў. Нават жыдоўскія паслы прымаюць учасьце ў „малапольскім коле“.

### Уражэньне ў С.С.Р.Р. ад украінскіх прамоваў у Сойме.

Па ўсяму ССРР прамовы ўкраінскіх паслоў Васыньчука і Вайцюка аб вольным плебісцыце сярод украінскага насяленьня Польшчы і дамаганьні далучэньня да радавае Ўкраіны выклікалі вельмі моцнае ўражэньне.

У Беларускай Рэспубліцы, як піша „Радавая Беларусь“, пераконаны, што тая самая эвалюцыя адбудзецца і ў беларускіх паслоў.

Можам ад сябе далаць, што польскі ўрад сваей палітыкай напэўна зробіць „усё ад яго залежнае“, каб гэткая эвалюцыя адбывалася як найхутчэй...

### Француска—і польска-радавыя адносіны.

Орган „паразуменьне лявіцы“ „Новая Эра“ падае вестку аб блізкім прызнаньні С.С.Р.Р. Францускім урадам. Быццам на склíканай дзеля гэтага канфэрэнцыі францускі ўрад будзе асабліва націскаць на ўрэгуляваньне польска-расейскіх адносінаў...

### Кандыдат на пасла Францыі ў Маскве.

Што францускі ўрад гатовіцца да аднаўленьня нармальных знозінаў з С.С.Р.Р., відаць з таго, што ён ужо шукае кандыдатаў на становішча пасла ў Маскве. Такім кадыдатам называюць пасла ў Латвіі, графа дэ-Мартэль, які сьпешна выззваны з Рыгі ў Парыж.

### Падгатоўка да Царкоўнага Сабору ў Маскве.

У Маскве закончаны паседжаньні так-званай прадсаборнай нарады, скліканай Сынодам. Сынод робіць спробы паразумецца перад скліканьнем Сабору з патр. Ціханам, але той, як падае „Rzeczpospolita“, адкінуў усе прапазыцыі сыноду.

### Заяўленьне Эрыо.

Франц. прэм'ер Эрыо заявіў у Сэнаце, што плян камісіяў экспэртаў будзе напэўна выпаўнены Нямеччынай, і што ён прыме ўсе меры асьцярожнасьці, каб тыя новыя дагаворы, якімі Англія прапануе нанова абязаць Нямеччыну, не ўвялі ніякіх зьменаў у Вэрсальскім Трактаце.

Гэтая дэклярацыя прынята бурай воплескаў.

Тую самую і таксама прынятую дэклярацыю прачытаў Эрыо ў Парляманце.

### Новая канфэрэнцыя.

Запросіны на новую міжнародную канфэрэнцыю ў Лёндоне ўжо разасланы. Амэрыка згадзілася прыняць учасьце, агаварыўшыся, што будзе браць голас толькі ў справах, датычучых яе інтарэсаў. Справа міжысаюзных даўгоў, пад націскам Францыі, выключана з павесткі канфэрэнцыі.

Галоўным пытаньнем зьявіцца плян камісіі экспэртаў.

### Нямецкі адказ на ноту аб ваенным кантролі.

Нямецкі адказ на англа-францускую ноту аб кантролі над разбраеньнем Нямеччыны яшчэ ня высланы, бо нацыяналісты патрэбавалі ад канцлера даць ім час на нараду. Праект нямецкае ноты вельмі абшырны і наагул пісаны ў „сардэчным“ тоне. Немцы пішуць, што гатовы прыступіць да кожнага дагавору, але ставяць варункам утрыманьне прынцыпу раўнапраўя і сувэрэннасьці абедзьвюх старон...

### Нямецкія сацыял-дэмакраты і плян адшкадаваньняў.

Нямецкія с.-д. выдалі адозву, у якой абураюцца на агітацыю нацыяналістаў проці пляну экспэртаў, але з свайго боку стаяць, як і дагэтуль, на тым, што гэны плян павінен быць пастаўлены, як пытаньне, на ўсенароднае галасаваньне. Партыя с.-д. абяцуе на гэтым плебісцыце агітаваць за прыняцьце прапазыцый экспэртаў.

### Іоффэ дэлегатам на расейска-англійскую канфэрэнцыю.

З Масквы падаюць, што радавы ўрад высылае дадатковым сябрам лёндонскай радавай дэлегацыі Іоффэ.

### Справа забойства Маттэотті.

Дагэтуль абвінавачаны ў учасьці ў забойстве Маттэотті 22 асобы.

Сэнсацыю зрабілі рэвэляцыі адносна абодвух асабістых сэкрэтароў Мусоліні, якія атрымлівалі добрыя грошы за „супрацоўніцтва“ ў тэй самай газэце „Corriere Italiano“, рэдактэр якое Філіпэльлі аказаўся галоўным арганізатарам забойства...

### Урадовы крызіс у Італіі.

Пад націскам паўсюднага абурэньня Мусоліні „радыкальна рэарганізуе“ ўрад. Усе міністры, апрача ваеннага і назначанага пасьля забойства Маттэотті міністра ўнутр. спраў выходзяць у адстаўку.

Нават сам Мусоліні пакідае становішча мін. загран. спраў, а застаецца толькі прэм'ерам. (Вось што значыць „націск з заграніцы“)...

Выйдуць у адстаўку таксама ўсе віцэ-міністры.

Сэнат выразіў даверые Мусоліні, але патрэбаваў радыкальнага „ачышчэньня адносінаў“ у краі.

### Дэклярацыя італьянскае апазыцыі.

Як ведама, італьянскі парлямант, у якім урадовая большасьць ператварылася ў апазыцыю, рас-

# Бюджэт Польшчы у Сойме.

Дыскусія над каштарысамі паасобных міністэрстваў.

## 1. Бюджэт Прэзыдэнта Рэспублікі.

З рэфэрату дакладчыка мы даведаліся, што пан Прэзыдэнт бярэ пэнсіі ў год асабіста 84.585 злот., ці больш як 152 мільярды марак. Апрача таго, многа каштуе яго асабістая канцэлярыя.

Да гэтага дакладу пас. П.П.С. Барліцкі зрабіў прапазыцыю з асабістай пэнсіі Прэзыдэнта скасаваць адзін злоты (можна думаць, што гэтая дэманстрацыйная прапазыцыя, якая канстытуцыйна-ветліва выражае недаверые да асобы таго ці іншага ўрадоўца наагул, мела мэтай рэагаваць на вядомыя часта нацыяналістычна-эндэцкія, або апошнія мілітарна-пагражаўшыя прамовы пана Прэзыдэнта Вайцехоўскага, калісьці выбранага лявіцай і меншасьцямі проці галасоў правіцы)...

Гэтая прапазыцыя спатыкаецца страшэнным галасам правіцы і крыкамі „Скандал“!.. Прапазыцыя П.П.С. адкідаецца.

Трэба прызнаць, што гэта-ж—запраўды скандал, хаця можа і трохі ў шырэйшым сэнсе, чым гэта разумела правіца...

## 2. Прамова прэм. Грабскага.

Прэм. Грабскі сваю другую прамову таксама ахвяраваў толькі выключна справам фінансавым, не закрануўшы нават ані воднага палітычнага пытаньня. Вельмі дасьціпна ён адказаў на закід лішне хуткай фарсаванай санацыі фінансаў, што давяло да эканамічнага крызісу: яго ўласны плян санацыі меў быць расьцягнуты на тры гады, але больш году назад Сойм скінуў яго, пасадзіўшы на яго месца п. Кухарскага, і гэтак прапала больш, як паўгоду, каштоўнага часу, а другое — Сойм сам абмяжаваў час санацыі, даўшы яму, Грабскаму, толькі на паўгоду скарбовыя паўнамоцтвы. Дык уся „заслуга“ гэткай пасьпешнасьці санацыі — не яго, Грабскага, але Сойму. (Сьмех і брава). Таксама дасьціпна і міла палемізаваў пан Грабскі з „сваім“ Соймам аб закідах у надмерных падатках. Ен сказаў, што наадварот: яго грызе сумленьне, што ён *не здалеў дацягнуць падаткаў да тэй вышыні, як гэта загадала яму воля Сойму...* Напрыклад, Сойм ухваліў спагнаць маёнтковага падатку мільярд злотых, значыць, на гэтыя паўгода 166 мільёнаў; а ён, Грабскі, да першага ліпня ледзь здалее атрымаць толькі 115 мільёнаў... (Знову сьмех, асабліва з боку тых паноў-абшарнікаў, якія пераважна не даплацілі ў скарб „каханай айчызны“ гэтыя 55 мільёнаў злотых)...

Вельмі цікавыя тлумачэньні даў п. Грабскі на закіды ігнараваньня патрэбаў „вёскі“. „Гэты закід — асаблівая ірснія адносна да мяне,—сказаў ён,—бо на месты наагул накладзена 50 з чымсь процэнтаў усіх падаткаў, (бо ці-ж шкадаваць жыдоў), а на „вёску“ наагул выпадае толькі сорак з нечым, у тым толькі адна пятая падае на дробнага рольніка. Зямельны падатак п. Грабскі павялічыў, але гэтая надвыжка, як ён сказаў, пайшла не на агульна дзяржаўныя патрэбы, але на пэнсіі вучыцялём польскіх народных школаў, гэта значыць, што і з беларускіх сялян узялі яшчэ дадаткова аж 100 проц. для тых вучыцялёў польскіх школаў, якія калечаць душы беларускіх дзяцей. І якой запраўднай „ironіяй лёсу“ гучаць безнадзейна-самадавольныя словы п. прэм'ера аб тым, што ён „думае, што гэтым зрабіў добра як для гаспадарства („паньства“), так і для вёскі“...

П. Грабскі сцьвярджае, што толькі 50 проц. (палова) сялян заплаціла гэты падатак, дзеля чаго прыйшлося адкласьці яго аж да лістападу. Але хто ведае нашыя „стасункі“, той зразумее, што на нашых „Крэсах“ гэты падвойны падатак з зямлі паліцыя напэўна спагнала з нашых сялян да канца.

Далей п. Грабскі абяцаў, што каб змусіць гандляроў спусьціць цэны на вопраткі і боты, пусьціць з заграніцы гэтыя вырабы, дзе яны шмат таньней, зьменшыўшы высокія мытныя стаўкі. Але дагэтуль гэтая салодкая абяцанка астаецца пустой пагрозай гандлярам і прамыслоўцам, якія недарма-ж падтрымліваюць урад п. Грабскага. А цераз колькі сэкунд той самы Грабскі тлумачыў вялікія крэдыты прамыслоўцам і гандлярам патрэбай „станеньня прадуктаў“...

Справядлівая была ўвага п. прэм'ера, што „толькі падняцьце падатковай і патрабляючай, ці купляючай здольнасьці вёскі можа ўрэгуляваць унутраны збыт вытвараў Горнага Сьлёнску“. Гэтым толькі сам п. Грабскі пацьвярдзіў тое, што ў Эўропе ведама цяпер кожнаму. Унутраны рынак Польшчы ня можа справіцца з захопленым вялізарным прамысловым абшарам „Горнага Сьлёнску“, і яго яшчэ вельмі доўга будуць, як і дагэтуль, эксплёатаваць для сябе заграніч-ныя сілы, пераважна французы...

„Гэты год—пробны год для санацыі скарбу, і ён яшчэ ня скончыўся“, — гэтак закончыў сваю прамову п. Грабскі. Але—ці можна будзе пасьля сказаць, што запраўды „гэта быў вялікі год для Польшчы“, як думае аратар?..

## 3. Бюджэт дзяржаўнага кантролю.

Дакладчык сцьвярджае, што ўстанова дзяржаўнага кантролю, каштуючы Польшчы толькі 0,16 яе бюджэту, уратавала скарбу мільярдавыя сумы. Гэта значыць, што з тых більёнаў, якія рабавалі ў скарбу розныя махэры-патрыёты, удалося „накрыць“ зладзеяў на некалькі мільярдаў. Але штось ня чуваць, каб гэтых зладзеяў судзілі ў Польшчы...

Паміж іншым, дакладчык сцьвярдзіў, што „ўрадовыя ўлады хутчэй утруднялі, як аблягчалі працу кантролю“.

Адзін з прамоўцаў ілюстраваў гэтыя адносіны ўраду да кантролю так: дзеля вельмі зразумелай „ашчаднасьці“ ўрад дамагаўся скасаваньня 400 урадоўцаў-кантралёраў і ўсіх акружных кантрольных палат. Ведама, безкантрольна лягчэй...

## 4. Бюджэт Прэзыдыуму Рады Міністраў.

Бюджэт гэты абыймае, апрача Прэзыдыуму Рады Міністраў, яшчэ і Вышэйшы Адміністрацыйны Трыбунал, Генаральную Пракураторыю, Надзвычайнага камісара ашчаднасьці, „Monitor Polski“ і дзяржаўныя друкарні.

Двузначна-далікатную крытыку п. Грабскага, як прэзыдэнта міністраў, дае п. Сьлівінскі („Chłopski Związek“). П. Грабскі—фінансіст вялікіх талентаў і „палітык вялікага розуму, але ён не павінен быць прэм'ерам (вясёлы сьмех). Не павінен дзеля таго, што ня мае ніякай палітычнай праграмы, а перадусім ня ўмее выбіраць сабе супрацоўнікаў. — Бо-ж ён ня мае ніякай помачы ў міністрах: гэта-ж усё анальфабэты (бязграматныя)“, выклікае аратар. Да кожнага з тых „міністраў“ трэба было-б прыставіць нейкага „обэр-міністра, ці нейкага арапа-кантралёра“...

Трэба сцьвярдзіць, што ў Польскім Сойме калі-не-калі раздаецца слушнае слова, толькі вось — скуль узяць гэтых „арапаў“? Можна запраўды выпісаць з Арапіі...

Далей п. Сьлівінскі дасьціпна кажа, што прэм'ер Владыслаў Грабскі, заместа прэм'ерства, усю душу ахвяраваў адным фінансам, рэшту ўсей гаспадарственай дзеяльнасьці пакінуўшы другому Грабскаму. (Сьмех).

Другі Грабскі — гэта брат прэм'ера, Станіслаў, вядомы польскі гакатыст, лідэр эндэкаў.

„Калі украінцы і беларусы пагражаюць нам адзяленьнем ад Польшчы, дык гэты рух скіраваны ня проці польскага народу, але толькі проці Варшавы і яе цэнтралістычнага ўраду, бо нашая бюракратыя і адміністрацыя не дарасьлі яшчэ да таго, каб упраўляць гаспадарствам“.

Таксама слушна: з польскім народам, які жыве ў Польшчы, але не на нашых беларускіх ці украінскіх абшарах, нам вельмі лёгка дагаварыцца, бо ён ня мае ані патрэбы, ані магчымасьці панаваць над намі, а мо' нават будзе толькі працаваць побач з намі па суседзку...

Лявіца людоўцаў дамагалася слушна скасаваньня зусім Прэзыдыум Рады Міністраў, якое сталася нейкім „над-урадам“, а Беларускі і Украінскі Клюбы дамагаліся толькі скасаваньня крэдытаў, якімі Прэзыдыум, ці асабіста прэм'ер могуць распараджацца безадчотна. (Можа з гэтых крэдытаў падтрымліваецца і на нашых „Крэсах“ бадзёрасьць таго ці іншага „грамадзянскага“ жыцьця).

Але ўсе гэтыя прапазыцыі Сойм адкінуў.

(Працяг будзе).

Апазыцыя, аднак, ня лічыла справу праіграной. Большасьць шляхты пачулася вельмі пакрыўджаной. Як можа быць, каб у каталіцкай Польшчы, ды мелі роўныя правы некаталікі? І вось пачынаецца ў Польшчы змаганьне з расейскімі ўплывамі, і перш-наперш з правамі дысыдэнтаў.

Справы рэлігійныя, а ня што іншае, далі Расеі падставу ўмяшацца ў унутранае жыцьцё Польскага Гаспадарства. Роль Кацярыны II даволі двузначная. Бязумоўна, на першым месцы яна ставіла свае захватныя пляны; аднак, дзякуючы неталеранцыі і палітычнай нясьпеласьці шляхты, гэтыя пляны знайшлі абаснаваньне ў гуманнасьці і абароне пакрыўджаных.

Польскі гісторык Уладыслаў Смоленьскі кажа: „Гэтая самая шляхта, якая за дэтронізацыю Станіслава Аўгуста і зьнішчэньне рэформ Чарторыйскіх паказала гатоўнасьць выслугівацца імпэратрыцы, у *справе дысыдэнцкай* падняла проці Расеі аружны пратэст. Падняла яго, ашуканая ў галоўнай сваей мэце: у дэтронізацыі караля — і зачэпленая ў пачуцьцях рэлігійных, каторыя маглі пазволіць на уступкі, але не на абсалютную роўнасьць у справах рэлігіі“.

Прыведзенае жмені фактаў, узятых з прац *адных толькі польскіх гісторыкаў*, павінна хіба хапіць дзеля таго, каб мець адвагу сказаць, што Польшча ня можа пахваліцца сваей колішняй талеранцыяй. Сучасная-ж распалітыкаваная, апанаваная дзікім нацыяналізмам часьць польскай прафэсуры ня толькі ня мае адвагі казаць праўду, але прабуець праконываць заходнюю Эўропу аб тым, чаго ня было.

**А. Білевіч.**

